ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»

**Асвятленне парламенцкіх выбараў 2012 г. у беларускіх СМІ**

Бюлетэнь №2

*(20 -- 31 жніўня 2012 г.)*

Маніторынг мае на мэце:

- *ацаніць, наколькі поўна, усебакова і ў адпаведнасці з прынцыпамі журналісцкай этыкі ды міжнародна прызнанымі стандартамі беларускія медыя здольныя асвятляць выбарчы працэс;*
- *прыцягнуць увагу журналісцкай супольнасці краіны да таго, што неперадузятае і поўнае інфармаванне выбарцаў пра электаральны працэс, а таксама пра палітычныя і грамадскія погляды кандыдатаў і іх прыхільнікаў – непасрэдны абавязак прафесійных медыя;*
- *прааналізаваць уплыў медыя на электаральны выбар.*

Маніторынг ажыццяўляецца на падставе 17 беларускіх СМІ, дзяржаўных і недзяржаўных, электронных і друкаваных, агульнанацыянальных і рэгіянальных[1]. Аналіз зместу медыя базуецца як на якасных, так і колькасных паказчыках, г. зн. -- на ацэнцы манеры рэпрэзентацыі суб’ектаў выбарчага працэсу і падліку плошчы/часу, адведзеных выбарчай тэматыцы ў, адпаведна, друкаваных і электронных медыя.

На азначаны вышэй перыяд маніторынгу прыпадае рэгістрацыя кандыдатаў ды старт агітацыйнай кампаніі, у межах якой кандыдаты распачалі свае выступы па тэлебачанні і радыё. У гэты ж час у краіну прыбыў кіраўнік місіі БДІПЧ АБСЕ, а крыху раней (25 ліпеня б.г.) сваю працу распачала місія назіральнікаў ад СНД.

**Асноўныя вынікі і некаторыя высновы**

Характар асвятлення выбарчай кампаніі ў дзяржаўных СМІ істотна не змяніўся. Яны па-ранейшаму акцэнтуюць увагу на арганізацыі ды тэхнічных аспектах выбарчага працэсу. Галоўнай крыніцай інфармацыі для дзяржаўных медыя застаюцца ЦВК і акруговыя камісіі. Да прыкладу, навінная праграма *“Панарама” (Беларусь 1)* адвяла ЦВК 50% часу, праграма *“Радыёфакт” (1 канал)* -- 35%, тыднёвік *“7 дней”* – амаль 48% плошчы параўнальна з усімі іншымі суб’ектамі маніторынгу.

Гэта аднак не азначае, што выбарчая тэматыка ў дзяржаўных СМІ дамінуе. Якраз наадварот. Названы *“Радыёфакт”* адвёў тэме выбараў 1,7% часу. Для параўнання: тэма “Спорт” атрымала 10,5%, а “Надвор’е” – 10,1% часу праграмы. А праграма *“Панарама”,* нягледзячы на рэкордную рэпрэзентацыю ЦВК, адвяла выбарчай тэматыцы часу меней, чым надвор’ю і спорту (адпаведна – 2,1%, 2,9% і 16,1%). Тая ж тэндэнцыя характэрная і

[1] ***Электронныя медыя --*** *Беларусь 1 (навінная праграма “Панарама”); АНТ (навінная праграма “Наши новости”); Беларусь 1 (тыднёвая аналітычная праграма “В центре внимания”); Нацыянальнае радыё (1 праграма “Радыёфакт”); “ТРК “Гомель” – “Навіны Рэгіёна”; “Гомель FM” (“Навіны”); ТРК “Магілёў”(”Навіны Магілёў”); Абласное радыё “Навіны” (Магілёў).* ***Інтэрнэт-рэсурсы*** -- www.naviny.by, www.belta.by. ***Друкаваныя СМІ –*** *“Беларусь сегодня”, “Народная воля”, “7 дней”, “Наша ніва”, “Комсомольская правда в Белоруссии” (таўстушка), “Гомельская праўда”, “Могилёвская правда”.*

для рэгіянальных электронных медыя. Напрыклад, праграма *“Навіны”* абласнога радыё *ТРК “Магілёў”* адвяла выбарчай тэматыцы 0,47% часу, а надвор’ю і спорту – адпаведна 8,4% і 3,5% часу. І столькі ж часу выбарчай тэматыцы -- праграма *“Навіны рэгіёна” ТРК “Гомель”*. Гэткім чынам, відавочна, што тэма выбараў – далёка не прыярытэтная для дзяржаўных СМІ.

Што да манеры рэпрэзентацыі суб’ектаў выбарчага працэсу, то дзяржаўныя медыя пазітыўна і нейтральна ацэньвалі дзейнасць *ЦВК*, пераважна пазітыўна і нейтральна дзейнасць *місіі назіральнікаў ад СНД* і пераважна нейтральна дзейнасць *заходніх назіральнікаў*.

Гэты этап маніторынгу дазваляе казаць і пра адносна новую асаблівасць асвятлення кампаніі, заўважаную ў некаторых дзяржаўных СМІ, а менавіта – хоць і пра мінімалісцкую, але пераважна нейтральную рэпрэзентацыю суб’ектаў выбарчага працэсу. У прыватнасці, гэта тычыцца навіннай праграмы *“Радыёфакт”,* газеты *“7 дней”* і, у пэўнай ступені, рэгіянальных медыя. Гэта асабліва заўважна пры параўнанні з ідэалагізаванымі рэпрэзентацыямі суб’ектаў выбарчага працэсу ў праграме*“В центре внимания”*. Разам з тым для тых жа самых медыя характэрная спрошчаная рэпрэзентацыя выбарчага працэсу праз ігнараванне значнай колькасці палітычных і непалітычных суб’ектаў, заангажаваных у парламенцкую кампанію. Да прыкладу, *“Радыёфакт”* рэпрэзентаваў усяго 6 суб’ектаў*,* газета *“7 дней”* – 3 суб’екты, а навінныя тэлепраграмы *ТКР “Гомель”* і *“Магілёў”* адпаведна – 10 і 8.

Як адзначалася вышэй, зарэгістраваныя кандыдаты атрымалі магчымасць звярнуцца да выбарцаў праз дзяржаўныя СМІ. Параўнальна з парламенцкімі выбарамі 2008 г. яны маюць доступ да тэлеэфіру ў больш рэйтынгавы час, а менавіта -- з 19.00 да 20.00 (у папярэдняй кампаніі эфірны час па тэлебачанні прадастаўляўся з 18.00 да 18.30, а ў вялікіх гарадах і Мінску – з 17.30 да 18.30). Рэйтынгавы час адведзены кандыдатам і на радыё (з 18.00 да 19.00). Выступы кандыдатаў транслююцца, аднак у запісе, што робіць магчымым цэнзураванне іхняга зместу. Як паведаміла недзяржаўнае інтэрнэт-выданне, *“никого из пяти баллотирующихся в регионе (рэд.—Магілёўскай вобласці) членов партии (рэд. – Аб’яднанай грамадзянскай партыі) пока не пропустили в эфир”* (http://naviny.by/rubrics/elections/2012/08/30/ic_news_623_400513/). А ***“****На тэлеканале “Беларусь-2” 29 жніўня не паказалі выступ кандыдата ў дэпутаты ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі ў Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе №36 Уладзіміра Няпомняшчы”* (http://baj.by/be/node/13814).

Да таго ж маніторынгаваныя дзяржаўныя медыя не анансуюць выступы кандыдатаў (з указаннем канкрэтнага прозвішча, партыйнай прыналежнасці, дня і часу выступу), пазбаўляючы тым самым выбарцаў важнай інфармацыі і мажлівасці запланаваць прагляд ці праслухоўванне звароту сваіх кандыдатаў. А друкаваныя праграмы перадач тых тэлевізійных каналаў (*Беларусь 2 і СТВ*), дзе маюць адбыцца выступы, пазначаюць адведзены час не як “Выступы кандыдатаў у дэпутаты”, а як *“Выборы-2012”.* Сімптаматычна і тое, што, паводле інфармацыі *БелТА,* палажэнне ЦВК аб парадку выкарыстання СМІ пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў не прадугледжвае магчымасці публікацыі кандыдатамі сваіх праграм у друкаваных медыя (http://www.belta.by/ru/all_news/society/Pod-tele--i-radiodebaty-kandidatov-v-deputaty-otvedeno-samoe-rejtingovoe-efirnoe-vremja---Lozovik_i_605719.html).
А тэксты і відэа выступаў кандыдатаў на вэб-старонках адпаведных каналаў і рэгіянальных тэлерадыёкампаніяў красамоўна адсутнічаюць. Гэткім чынам, дзяржаўныя СМІ фактычна маргіналізуюць галоўных дзеючых асобаў выбарчага працэсу.

З таго, што да гэтага часу дзяржаўныя медыя рабілі выразны акцэнт на арганізацыйных і тэхнічных аспектах выбарчага працэсу, а не на канкурэнтнай барацьбе ідэяў і палітычных платформаў, палітычныя партыі ды іншыя важныя ўдзельнікі выбарчага працэсу застаюцца па-ранейшаму нябачнымі для выбарцаў.

Такое асвятленне выбарчага працэсу добра карэлюецца з ацэнкай характару парламенцкай кампаніі, дадзенай спн. Ярмошынай: "*Все-таки это не выборы президента, когда кандидаты, они представляют всю страну в целом, и, разумеется, представляют достаточно различные точки зрения. Что же касается нынешних выборов, то здесь будут дебатироваться прежде всего проблемы, интересные для избирателей каждого избирательного округа. Поэтому, вполне возможно, они будут носить достаточно камерный характер". (Беларусь 1, "Панарама", 23.08.2012).* Гэткім чынам, у маніторынгаваны перыяд дзяржаўныя медыя працягвалі асвятляць выбарчы працэс не як шырокую палітычную кампанію ці падзею агульнанацыянальнага маштабу, а як камернае, лакальнае мерапрыемства.

Відавочным медыйным лідарам паводле ўвагі, нададзенай выбарам, з'яўляецца недзяржаўнае інтэрнэт-выданне *naviny.by.* Яно асвятляла дзейнасць 26 суб'ектаў выбарчага працэсу (на10 суб'ектаў болей за дзяржаўны інтэрнэт-партал *belta.by*), падавала самую разнастайную інфармацыю, якая сыходзіла не толькі ад уладных структур і асобаў, але і іншых палітычных і непалітычных суб'ектаў.ды прытрымлівалася збалансаванай манеры ацэнкі.

Тыднёвік *"Наша ніва"* асвятляў выбарчы працэс у тым жа самым, што і дзяржаўныя *"7 дней",* мінімалісцкім фармаце. З той толькі розніцай, што падаваў не афіцыйную інфармацыю ад ЦВ, а пісаў пра "Рух за Свабоду" ды ўзгадваў іншых апазіцыйных суб'ектаў. Рэпрэзентуючы тэму выбараў, газета *"Комсомольская правда в Белоруссии" ("таўстушка")* абмежавалася інтэрв'ю з афіцыйнай асобай. Гэткім чынам, маніторынгаваныя недзяржаўныя выданні, за выключэннем інтэрнэт-газеты *naviny.by,*
не надалі тэме выбараў сур'ёзнай увагі.

Параўноўваючы асвятленне парламенцкіх кампаній 2008 і 2012 гг., можна з упэўненасцю сказаць, што ў іх асвятленні адсутнічаюць хоць-якія істотныя адрозненні. Вось адна з высноваў, зробленых маніторынгавай групай ГА БАЖ у 2008 г. Гэтую выснову без хоць якіх правак можна прыкласці і да цяперашняй кампаніі. Цытата: *"Дадзеныя гэтага перыяду пацвярджаюць папярэднюю выснову адносна таго, што фармат асвятлення выбарчай кампаніі дзяржаўнымі медыя скіраваны на мінімізацыю палітычнай барацьбы паміж рознымі палітычнымі сіламі ("ціхія выбары"), на няўдзел у гэтай барацьбе выбарцаў ды на маргіналізацыю альтэрнатыўных праграм (тым самым і альтэрнатыўных мажлівасцяў) развіцця беларускага грамадства".*

Можна зрабіць выснову і больш агульнага плану: у правядзенні выбарчай кампаніі ды ў яе асвятленні выразна праглядаюцца рысы агульнапалітычнага застою, якія часам памылкова кваліфікуюць як палітычную стабільнасць.

# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**BELTA.BY**
20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Советская Белоруссия: Беларусь сегодня”**

20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**Панарама**

20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**Панарама**

20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**ОНТ НАВІНЫ**

20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ОНТ НАВІНЫ**
20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**



# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**"Народная Воля"**
20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**NAVINY.BY**

20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - колькасьць знакаў**






## BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**“Могилёвская Правда”**

20.08-31.08.2012

**Адзінка вымярэння - см. кв.**






# BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012

**ТРК “Магілёў”/Абласное радыё “Навіны”**
20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**






**BELARUSIAN PARLAMENT ELECTIONS 2012**

**ТРК "Магілёў"/Абласное радыё "Навіны"**
20.08 - 31.08.2012

**Адзінка вымярэння - секунда, хвіліна, гадзіна (0:02:45)**

